# Бюлетэнь Еўраклубаў

СПЕЦЫЯЛЬНЫ ВЫПУСК ДА ДЗЕСЯЦІГОДДЗЯ СЯБРОЎСТВА ЛІТВЫ І ПОЛЬШЧЫ Ў ЕЎРАСАЮЗЕ




# 10 год сяброўства Літвы і Польшчы ў Еўрасаюзе




**Літва і Польшча – дзве бліжэйшыя краіны-суседкі Беларусі. Нас з імі аб’ядноўвае многае, але, напэўна, найбольш важнае – гэта еўрапейская ідэнтычнасць.**

У той жа час, калі Літва і Польшча свядома і непахісна зрабілі выбар на карысць рэалізацыі гэтай ідэнтычнасці, то Беларусь пайшла іншым шляхам. У 2014 годзе Літва і Польшча будуць святкаваць дзесяцігоддзе паўнавартаснага сяброўства ў Еўрапейскім саюзе. Беларусь, верагодна, у 2015 годзе стане часткай Еўразійскага эканамічнага саюзу. Два розных вектары развіцця, набор адрозных каштоўнасцяў і рэаліяў. У спецыяльным выпуску Бюлетэня Еўраклубаў, прысвечанага дзясятай гадавіне сяброўства Літвы і Польшчы ў ЕС, мы бы хацелі прасачыць, якія дасягненні даў гэтым краінам еўрапейскі выбар. Гэта будзе зроблена ў параўнанні з нашай краінай.

Працяг на с.2-3




# 10 год сяброўства Літвы і Польшчы ў ЕС

Пачатак на с.1

*Г*історыя еўраінтэграцыі Літвы і Польшчы пачынаецца раней за непасрэдна ўступленне ў ЕС. Польшча пасля поспеху руху Салідарнасці напрыканцы 1980-х гг. распачала актыўную працу па рэфармаванні палітычнай і эканамічнай сістэмы. Літва была першай савецкай рэспублікай, якая абвясціла пра аднаўленне незалежнасці ў 1990 г. Аднаўленне незалежнасці і распад СССР азначалі вяртанне Літвы на мапу Еўропы, з якой яна знікла ўлетку 1940 г.

*А*бедзве краіны цвёрда выбралі курс на еўраінтэграцыю. У 1993 г. ЕС заявіў пра гатоўнасць падтрымаць такі выбар. Для далучэння да ЕС неабходна было выканаць патрабаванні трох крытэраў (так званых Капенгагенскіх крытэраў): 1) Палітычны крытэр (дэмакратыя, павага да правоў чалавека); 2) Эканамічны крытэр (рынкавая эканоміка); і 3) Крытэр здольнасці увядзення і прымянення прававых нормаў ЕС (адпаведнасць нацыянальнага права еўрапейскаму).

*З* абедзвюма краінамі ЕС заключыў пагадненні аб асацыяцыі, падобныя да тых, што цяпер прапануоўваюцца краінам Усходняга партнёрства. Паводе гэтых пагадненняў, краіны распачалі набліжэнне да стандартаў ЕС. 8 красавіка 1994 г. Польшча і 8 снежня 1995 г. Літва падалі афіцыйныя заяўкі на ўступленне ў ЕС. Афіцыйныя перамовы пра




**Прэм'ер Літвы Альгірдас Бразаўскас і кіраўнік МЗС Антанас Валіоніс падпісваюць дамову аб далучэнні да ЕС у 2003 годзе.**

уступленне ў ЕС пачаліся ў 1998 і 2000 гг. адпаведна, якія скончыліся паспяховым выкананнем трох крытэраў абедзвюма краінамі ў 2002 г. Апошнім крокам на ўступленні ў ЕС былі рэферэндумы 2003 г., дзе 91,1% літоўцаў і 77,6% палякаў (сярод 63,4% і 58,9%, якія ўзялі ўдзел у рэферэндуме адпаведна) падтрымалі сяброўства ў ЕС. 1 траўня 2004 г. Літва і Польшча афіцыйна сталі сябрамі ЕС. Такім чынам, прайшло менш за 10 год з моманту падачы заяўкі на ўступленне ў ЕС, тады як ў сярэдзіне 1990-х гг. мала хто верыў у такую хуткую інтэграцыю.

*Літва і Польшча з'яўляюцца паспяховымі дэмакратыямі, дзе некалькі разоў мянялася ўрадавая большасць і, нават, прэзідэнты, а іхныя эканомікі – рынкавымі і прывабнымі для інвестараў*

*Н*а сённяшні дзень абедзве краіны з'яўляюцца паспяховымі дэмакратыямі, дзе некалькі разоў мянялася ўрадавая большасць і, нават, прэзідэнты, а іхныя эканомікі – рынкавымі і прывабнымі для інвестараў.

*В*ынікі апытанняў Еўрабарометру (Еўрапейская Камісія) паказваюць, якія плюсы жыхары Літвы і Польшчы бачаць у сяброўстве ў ЕС, а таксама якія чаканні яны з гэтым звязваюць. Так, сёння 61% літоўцаў і 51% палякаў звязваюць з ЕС свабоду перамяшчэння, атрымання адукацыі і працаўладкавання на прасторы ЕС.

Працяг на с.3

| | Літва | Польшча | Беларусь |
|---|---|---|---|
| Свабода ў свеце | свабодная | свабодная | несвабодная |
| Індэкс эканамічнай свабоды | 22 (у асноўным свабодная) | 57 (памяркоўна свабодная) | 154 (дэспатычная) |
| Індэкс успрыняцця карупцыі | 43 | 38 | 123 |
| Індэкс свабоды прэсы | 33 | 22 | 157 |

**Свабода ў свеце** (Freedom in the World) рыхтуецца штогод недзяржаўнай арганізацыяй Freedom House (ЗША). Даследуюцца 195 краінаў на прадмет дэмакратыі і палітычных свабодаў.

**Індэкс эканамічнай свабоды** (Index of Economic Freedom) рыхтуецца штогод газетай The Wall Street Journal і недзяржаўным даследчым інстытутам Heritage Foundation (ЗША). У дакладзе даследуюцца 185 краіны свету па 10 індэксах. Эканамічная свабода вызначаецца як "адсутнасць урадавага ўмяшальніцтва або перашкоды вытворчасьці, размеркаваньню і спажываньню тавараў і паслугаў, за выняткам неабходнай грамадзянам абароны і падтрымкі свабоды як такой".

**Індэкс успрыняцця карупцыі** (Corruption Perception Index) рыхтуецца штогод няўрадавай міжнароднай арганізацыяй Transparency International і адлюстроўвае ацэнку ўзроўня успрыняцця карупцыі ў 176 краінах аналітыкамі і прадрымальнікамі.

**Індэкс свабоды прэсы** (Press Freedom Index) рыхтуецца штогод няўрадавай міжнароднай арганізацыяй "Рэпарцёры без межаў" (Reporters Without Borders). Даследуюцца 170 краінаў адносна свабоды прэсы праз анкетаванне партнёрскіх арганізацыяў "Рэпарцёраў без межаў".

# 10 год сяброўства Літвы і Польшчы ў ЕС




Пачатак на с.1-2

Немалаважнымі з'яўляюцца пытанні дэмакратыі, мацнейшай ролі ў свеце ў складзе ЕС, эканамічнага развіцця і стандартаў сферы сацыяльнай абароны.

Грошы структурных фондаў ЕС, якія накіроўваюцца ў праекты звязаныя з развіццём інфраструктуры і чалавечага патэнцыялу для новых сябраў ЕС, сталі важнай дапамогай для Літвы і Польшчы. З 2014 г. пачынаецца новы фінансавы цыкл ЕС, у рамках якога Літва і Польшча возьмуць ўдзел ў трэцяй, з моманту ўступлення ў ЕС, стадыі размеркавання фондаў, якія ў народзе называюцца проста "еўрапейскія грошы". Напрыклад, за цяперашні перыяд 2007-2013 гг. каля 7 млрд еўра былі размеркаваныя з еўрапейскіх структурных фондаў на розныя праекты ў Літве, і больш за 65 млрд еўра ў Польшчы.

Калі для часткі насельніцтва "еўрапейскія грошы" могуць быць рэччу даволі абстрактнай, іншы плюс сяброўства ў ЕС больш відавочны: свабода перамяшчэння. Нішто не можа параўнацца з перавагамі грамадзянства ЕС і са зручнасцю Шэнгенскай зоны. Літва і Польшча далучыліся да сістэмы, якая здымае кантроль унутраных межаў у ЕС у 2007 г. Зручнасць вандравання ў Еўропе была ў першую чаргу ацэненая маладым пакаленнем, якое вельмі мабільнае і шмат у чым арыентаванае на аб'яднаную Еўропу.

Безумоўна, гэтыя дзесяць год не былі вельмі простымі для ЕС, асабліва ў сувязі з сусветным крызісам. Нягледзячы на гэта, на пытанне ці краіны ў асноўным атрымалі выгоды ад сяброўства ў ЕС, у 2011 г. станоўча адказалі 67% літоўцаў і 73% палякаў (у 2004 г. 78% і 55% адпаведна). Таму падтрымка літоўцаў трохі зменшылася, а палякаў толькі павялічылася. У 2011 г. 49% літоўцаў і 53% палякаў лічылі сяброўства ў ЕС добрай з'явай (у 2004 г. 69% і 50% адпаведна). Імідж ЕС ацэньваюць як даволі пазітыўны і вельмі пазітыўны


PAP

Прэм'ер Польшчы Лешак Мілер міністр замежных справаў Уладзімеж Цімашэвіч падпісваюць дамову аб далучэнні да ЕС у 2003 годзе.

– у 2013 г. 38% літоўцаў і 43% палякаў (у 2004 г. 60% і 46%). Агулам у 2013 г. еўраптымістаў было 64% і 63% адпаведна, а песімістаў 31% і 29%.

*Калі б літоўцам і палякам прыйшлося зноўку прымаць рашэнне пра сяброўства ў Еўрасаюзе, большасць, як і 10 год таму, прагаласавалі б за ЕС*

Сяброўства ў ЕС не з'яўляецца панацэяй ад усяго. У Літве і ў Польшчы можна сустрэць асобаў, якія не падтрымліваюць сяброўства ў ЕС. Уступленне ў ЕС стварыла феномен працоўнай міграцыі: заўважная частка насельніцтва краіны выехала працаваць у Вялікабрытанію, Ірландыю, Іспанію, скандынаўскія краіны. Гэта можа быць праблемай для дэмаграфічнай сітуацыі, аднак гэта варта разглядаць з пункту гледжання свабоды выбару чалавека і магчымасці рэалізаваць гэты выбар. Важна, што такія асобы працуюць у краінах ЕС легальна, маюць сацыяльныя гарантыі і роўныя правы з іншымі грамадзянамі ЕС. З эканамічнага пункту гледжання, гэта істотна павялічвае прыток замежнай валюты ў краіну праз замежныя пералікі. Больш за тое, цяпер назіраецца іншая тэндэнцыя, асабліва заўважная ў Польшчы. Ужо на восьмым годзе сяброўства зменшылася колькасць асобаў, якія выязджалі на працу за мяжу і павялічылася колькасць тых, хто вярнуўся ў краіну.

У абедзвюх краінах ёсць таксама незадаволеныя асобныя групы, такія як радыкальныя нацыяналісты, якія не падтрымліваюць дэвіз аб'яднанай Еўропы "Адзінства ў разнастайнасці".

Ідэя ЕС можа таксама быць не да канца зразумелай старэйшаму пакаленню, якое жыла большую частку жыцця ў іншым саюзе. Ёсць спробы правесці паралелі між ЕС і СССР, якія даволі няўдалыя, бо Брусэль занадта адрозны ад савецкай Масквы. Незадаволенасць старэйшага пакалення больш звязана не з ЕС, а з чаканнямі, якія не спраўдзіліся. Пасля таго, як Літва атрымала незалежнасць, з'явілася такое выказванне: "Праз пяць год мы будзем жыць як у Швецыі". Палякі жадалі жыць як у Нямеччыне. Трэба прызнаць, што Літва і Польшча не дасягнулі шведскіх і нямецкіх стандартаў дабрабыту, але і Швецыя і Нямеччына ішлі да гэтага не 10 (ці нават 20) год, але стагоддзямі.

На сённяшні дзень, калі б літоўцам і палякам прыйшлося зноўку прымаць рашэнне пра сяброўства ў ЕС, большасць, як і 10 год таму, прагаласавалі б за ЕС. І яны зрабілі б гэта ў многіх адносінах з большай упэўненасцю і рацыяналізмам.



# Эканоміка




*С*яброўства Літвы і Польшчы ў ЕС было асноўным чыннікам, які падтрымліваў эканамічны рост гэтых краінаў.

*Э*каноміка Літвы была адной з найбольш хутка растучых эканомік не толькі ў ЕС, але і ў свеце ў перыяд еўрапейскай інтэграцыі з 1998 г. і пасля ўступлення ў ЕС па 2008 г., да сусветнага крызісу. Падчас крызісу Літва стала апошняй з балтыйскіх краінаў, якая адчула наступствы крызісу. З 2000 г. ВУП Літвы амаль падвоіўся. У Літве добра развітыя сучасныя тэхналогіі. Так, у ёй ствараеца кожны дзясяты высокатэхналагічны лазер у свеце.

*У* крызісныя і паслякрызісныя часы рэкордамі поўнілася Польшча. Падчас сусветнага крызісу Польшча паказвала найлепшы эканамічны рост паводле рэальнага ВУП не толькі сярод краінаў ЕС, але і сярод усіх краінаў Арганізацыі эканамічнага супрацоўніцтва і развіцця (АЭСР). Параўнальна з 2007 г., да 2012 г. Польшча нарасціла 18,2% ВУП – лепшы паказчык у ЕС. Асноўнымі чыннікамі сталі рэкордна вялікі рост экспарту (у 2012 г. ён дасягнуў гістарычнага максымуму 141,9 млрд еўра) і вялікія трансферты з бюджэту ЕС (у 2012 г. Польшча атрымала рэкордныя 11,9 млрд еўра з бюджэту ЕС).

*У* 2011 г. быў дасягнуты ўзровень 65% сярэдняга па ЕС ВУП на душу насельніцтва. Польшча змяншала адрозненні паказчыка ВУП на душу насельніцтва параўнальна з 15 найбольш развітымі краінамі ЕС ў сярэднім на 2% штогод пачынаючы з 2005 г., што ўдвая больш за такі ж паказчык першай паловы 2000-х гг. і пераўзыходзіць ацэнкі міжнародных арганізацыяў.

*Р*ост ВУП на душу насельніцтва (па парытэце пакупніцкай здольнасці) у Літве вырас з 12 968 дал. ЗША у 2004 г. да 23 399 дал. ЗША у 2012 г. у Польшчы – з 13 009 да 22 162, а ў Беларусі – з 7589 да 15592.

*Л*ітва і Польшча яшчэ не з'яўляюцца часткай еўразоны, аднак абедзве абавязаны ўвесці адзіную валюту. Літва ўжо выканала тры з пяці крытэраў па ўступленні ў зону еўра (Польшча толькі два). Літоўскі ўрад плануе пераход на еўра з 2015 г. У Польшчы з гэтым яшчэ не вызначыліся.









*З*а перыяд сяброўства ў ЕС Польшча і Літва істотна палепшылі ўмовы для вядзення бізнесу і прыцягнення новых вытворчасцяў у краіну. Асноўны сусветны рэйтынг па лёгкасці вядзення бізнэсу (Doing Business) адзначае, што толькі за апошні год, параўнальна з 2012, Польшча павысіла свае пазіцыі ў рэйтынгу па шэрагу катэгорыяў: атрыманне дазволу на будаўніцтва (16 пазіцыяў уверх), рэгістрацыя ўласнасці (9 пазіцыяў уверх), падключэнне да сістэмы электразабеспячэння (1 пазіцыя ўверх), міжнародны гандаль (1 пазіцыя ўверх). З сярэдзіны 2011 г., новыя кампаніі могуць рэгістравацца праз інтэрнэт і індывідуальныя прадпрымальнікі рэгіструюцца за адзін дзень. Агулам, па паказчыку рэгістрацыі прадпрыемстваў Польшча паднялася ў рэйтынгу на 8 пазіцыяў.


SERWISY.GAZETAPRAWNA.PL




*П*аводле гэтага ж рэйтынгу, Літва ажыццявіла ў гэтым годзе неверагодны скачок на 94 пазіцыяў паводле паказчыку рэгістрацыі прадпрыемстваў і амаль увайшла ў дзясятку лідараў у свеце. Таксама адбыліся істотныя змены ў сферы крэдытавання (24 пазіцыі ўверх), падаткаабкладанні (3 пазіцыі ўверх) і падключэнні да сістэмы электразабеспячэння (5 пазіцыяў уверх).

*У* падатковай сферы, нягледзячы на вынікі апошняга выдання Paying Taxes 2014, паводле якіх Беларусь стала краінай якая больш за ўсіх прасунулася ў рэфармаванні падатковай сістэмы з 2008 г., яна так і не дасягнула поспехаў Польшчы і Літвы – абедзве краіны Еўрасаюза знаходзяцца вышэй у падатковым рэйтынгу.

*З*а апошнія 9 год, Польшча скарацiла колькасць падатковых выплат больш як на 20. Літва рабіла паступовыя ўстойлівыя рэформы і істотна вырвалася наперад.

*А*гулам, эканамічны і сацыяльны патэнцыял малых і сярэдніх прадпрыемстваў Беларусі нашмат горш выкарыстоўваецца, чым у Літве і Польшчы. Па занятасці ў сектары МСП Беларусь адстае ад сваіх суседзяў з ЕС у 2 разы, а па ўкладзе ў выраблёную дададную вартасць – не менш, чым у 2,5 разы.

| | Літва | Польшча | Беларусь |
|---|---|---|---|
| Індэкс лёгкасці вядзення бізнэсу 2014 (Doing Business Index) | 17 | 45 | 63 |
| Выплата падаткаў 2014 (Paying Taxes) | 56 | 113 | 133 |

**Індэкс лёгкасці вядзення бізнесу** (Doing Business Index) з'яўляецца асноўнай рэйтынгавай адзінкай Дакладу "Вядзенне бізнесу", які рыхтуецца штогод групай Сусветнага банку. У дакладзе даследуюцца 185 краіны свету на прадмет прастаты ажыццяўлення прадпрымальніцкай дзейнасці на аснове 10 індыкатараў. Даклад прысвечаны ацэнцы праўных актаў, якія рэгулююць дзейнасць малых і сярэдніх прадпрыемстваў цягам усяго жыццёвага цыклу, і парадку іх прымянення на практыцы.

**Выплата падаткаў** (Paying Taxes) рыхтуецца штогод міжнароднай сеткай кансалтынгавых і аўдытарскіх кампаніяў PricewaterhouseCoopers (PwC). Даследуюцца 185 краінаў на прадмет якасці падатковых сістэмаў.




# Спосабы ўплыву на рашэнні ЕС

**П**ольшча і Літва актыўна ўдзельнічаюць у фармаванні палітыкі ЕС, што асабліва заўважна па шэрагу кірункаў.

**У**сю другую палову 2013 г. Літва з'яўляецца старшынёй ЕС, ці больш дакладна, Рады ЕС. Дадзеная інстытуцыя з'яўляецца (разам з Еўрапейскім Прламентам) заканадаўчым органам ЕС. Старшынства забяспечвае функцыянаванне Рады ЕС, дазваляе ўзначальваць сустрэчы Рады, вызначаць парадак дню, складаць праграму працы і садзейнічаць дыялогу як у рамках паседжанняў Рады, так і з іншымі інстытуцыямі ЕС. Прыярытэтамі старшынства Літвы з'ўляюцца (1) забеспячэнне фінансавай стабільнасці, (2) заахвочванне росту эканомікі і стварэнне новых працоўных месцаў; (3) адкрытая Еўропа – больш шчыльнае супрацоўніцтва з суседзямі і стратэгічнымі партнёрамі. У рамках гэтай апошняй мэты і адбыўся саміт Усходняга партнёрства 2013 у Вільне (папярэдні – у Варшаве).

**П**ольшча займала пасаду старшыні Рады ЕС ў другой палове 2011 г. Прыярытэтамі старшынства Польшчы былі (1) еўрапейская інтэграцыя як крыніца росту, (2) бяспечная Еўропа і (3) Еўропа, якая карыстаецца перавагамі адкрытасці. Варта зазначыць, што трэці прыярытэт вельмі падобны ў абедзвюх краінах, што паказвае на аднолькавасць інтарэсу дадзеных краін у ўсходніх суседзяў, у тым ліку да Беларусі.





**Прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ вітаецца са Старшынём Еўрапейскай Рады Германам Ван Рампеем**

**П**ры прыняцці рашэнняў у Радзе ЕС Літва мае 7 галасоў (столькі ж колькі Ірляндыя, Харватыя, Фінляндыя, Славаччына, Данія). Польшча мае 27 (столькі ж колькі Гішпанія), што параўнальна з такімі краінамі як Нямеччына, Францыя, Італія, якія маюць максімальна магчымую колькасць галасоў – 29. Колькасць галасоў разлічваецца паводле колькасці насельніцтва, але прапорцыя на карысць маленькіх краінаў, як Літва. Так, Літва мае толькі 0,2% насельніцтва ЕС, але 2% галасоў, тады як Нямеччына мае амаль 16% насельніцтва, але толькі 8,4% галасоў (Польшча – 7,6% насельніцтва і 7,8% галасоў). У любым разе, на практыцы, большасць рашэнняў прымаецца кансэнсусам.

**У** Еўрапейскай Камісіі Літва і Польшча, як і іншыя краіны, маюць па адным камісары. Ад Літвы – гэта Альгірдас Шэмета, які займае пасаду Камісара па падаткаабкладанні, мытным саюзе, аўдыце і барацьбе з махлярствам. Ад Польшчы – Януш Левандоўскі, Камісар па фінансавым праграмаванні і бюджэце. Раней гэтую пасаду займала цяперашняя прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ, якая ў 2005 г. была ўшанавана званнем "Камісар году".






**У** Еўрапейскім Парламенце Польшча і Літва маюць 51 і 12 еўрадэпутатаў адпаведна (агулам у Еўрапарламенце 766 прадстаўнікоў насельніцтва ЕС). З 2009 па 2012 г. былы прэм'ер-міністр Польшчы Ежы Бузэк займаў пасаду старшыні Еўрапейскага Парламенту. Ён стаў першым старшынём інстытуцыі ЕС ад краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. З 2012 г. віцэ-старшынём Еўрапарламенту з'яўляецца таксама паляк – Яцэк Пратасевіч.

**У** Судзе ЕС Польшча і Літва маюць па адным суддзі, як і ўсе іншыя краіны.

# Усходняе партнёрства



Усходняе партнёрства – гэта ініцыятыва ЕС у рамках Еўрапейскай палітыкі добрасуседства. Яна скіраваная на паглыбленне адносінаў з шасцю краінамі былога СССР: Арменіяй, Азербайджанам, Беларуссю, Грузіяй, Малдовай і Украінай.




**У**сходняе партнёрства – гэта ініцыятыва ЕС у рамках Еўрапейскай палітыкі добрасуседства. Яна скіраваная на паглыбленне адносінаў з шасцю краінамі былога СССР: Арменіяй, Азербайджанам, Беларуссю, Грузіяй, Малдовай і Украінай. Усходняе партнёрства было ініцыявана міністрамі замежных справаў Польшчы і Швецыі ў 2008 г. Праект прадугледжвае падпісанне з гэтымі дзяржавамі на працягу наступных некалькіх гадоў пагадненняў пра асацыяцыю, стварэнне зоны вольнага гандлю і паступовае фармаванне адзінага рынку па прыкладзе таго, што ўжо існуе ў ЕС з такімі краінамі, як Нарвегія, Ісландыя і Ліхтэнштэйн.

**У**дзел Беларусі ва Усходнім партнёрстве абмежаваны. Узровень удзелу Беларусі залежыць ад агульнага развіцця адносінаў ЕС-Беларусь, якія вельмі напружаныя. Так, паколькі Еўрапейскі Парламент не прызнае беларускі парламент, апошні не можа браць удзел у парламенцкім вымярэнні УП. У той жа час беларуская грамадзянская супольнасць з'яўляецца паўнавартасным удзельнікам адпаведнага вымярэння. Беларусь не можа скарыстаць з асноўных перавагаў Усходняга партнёрства, бо таксама не ўдзельнічае ў двухбаковай частцы партнёрства. Адпаведна, на сённяшні дзень, Беларусь не можа заключыць пагадненне аб асацыяцыі. Такія пагадненні, якія вельмі падобныя да заключаных з Польшчай і Літвой падчас іхнай еўраінтэграцыі, былі раней недаступныя для краінаў нашага рэгіёну.



Беларускі парламент не можа браць удзел у парламенцкім вымярэнні Усходняга партнёрства. У той жа час беларуская грамадзянская супольнасць з'яўляецца паўнавартасным удзельнікам УП.

**Ш**то тычыцца фінансавай дапамогі з боку ЕС, то, на жаль, у сувязі з абмежаваным удзелам Беларусі ва Ўсходнім партнёрстве, у 2007-2010 гг. на яе вылучана самае маленькае сярод удзельнікаў Усходняга партнёрства фінансаванне (21 млн. еўра, калі Арменіі – 98,4 млн., Азербайджану – 92 млн., Грузіі – 120,4 млн., Малдове – 209,7 млн., Украіне – 494 млн. (з магчымасцю карыстання дадатковымі фондамі па шэрагу праектаў). Такім чынам, Беларусь як губляла вялікую частку фінансавання ня будучы паўнапраўным удзельнікам Еўрапейскай палітыкі добрасуседства, параўнальна з яе паўнапраўнымі ўдзельнікамі, так і працягвае недаатрымліваць у межах Усходняга партнёрства ЕС.




# Асноўныя еўрафонды для Польшчы і Літвы

У ЕС існуюць два структурныя фонды і Фонд лучнасці. З моманту ўступлення ў ЕС краінаў Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, еўрапейскае сумеснае фінансаванне стала істотным чыннікам іх развіцця. Еўрапейскі фонды складаюць ад 1.7 да 3.5% гадавога ВУП гэтых краінаў. Так, у Польшчы гэты паказчык складае 3.1%.

Агулам на перыяд 2007-2013 гг. ЕС вылучыў 172.6 млрд еўра на рэгіён Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. З іх большую частку атрымала Польшча у сувязі з колькасцю насельніцтва - 65.3 млрд еўра (81.1 млрд разам з нацыянальным дадаткам). Літва атрымала 6.8 млрд еўра (7.3 млрд разам з нацыянальным дадаткам).


WWW.CHI-EE.SK

**Структурныя фонды для Польшчы і Літвы ў 2007-2013 гадах, млн. еўра**

| Сфера | Літва | Польшча |
|---|---|---|
| Эканамічнае развіццё | 949 | 10,215 |
| Энэргетыка | 603 | 3,144 |
| Навакольнае асяроддзе | 1,241 | 9,250 |
| Ахова здароўя | 0 | 635 |
| Падрыхтоўка спецыялістаў | 1,048 | 12,985 |
| Публічная адміністрацыя | 595 | 611 |
| Навуковыя даследаванні і распрацоўкі, інавацыі | 557 | 10,050 |
| Транспарт | 1,103 | 29,911 |
| Гарадское і рэгіянальнае развіццё | 999 | 2,385 |
| Тэхнічная дапамога | 220 | 2,899 |


NAUKAWPOLSCE.PAP.PL

Істотнай крыніцай фінансавання для Літвы і Польшчы з'яўляецца Агульная сельскагаспадарчая палітыка ЕС. Асабліва гэта заўважна для Польшчы, паколькі каля 15% працоўнай сілы краіны (каля 2,2 млн) занятыя ў сельскай гаспадарцы, што з'яўляецца самым вялікім паказчыкам у ЕС. У Літве гэты паказчык складае каля 8%. Польскія фермеры павялічылі свае рэальныя даходы ў перыяд з 2000 па 2009 гг. на 107% (у сярэднім па ЕС гэты паказчык склаў толькі 5%, а сярод 12 новых дзяржаваў ЕС – 61%).

# Адукацыя



Еўрапейскі Саюз дапамагае краінам у развіцці адукацыйных сістэмаў праз фінансаванне шматлікіх адукацыйных праграмаў і праектаў. Адной з найбольш вядомых ініцыятываў з'ўляецца праграма Эразмус. Гэта самая паспяховая студэнцкая праграма абменаў у свеце. Штогод больш за 230 000 студэнтаў навучаюцца за мяжой (ужо ўзялі ўдзел амаль 3 млн). Польскія і літоўскія студэнты атрымалі доступ да выкарыстання магчымасцяў гэтай праграмы з 1998/99 і 99/2000 навучальнага году адпаведна. Ужо амаль 25 тыс. літоўскіх і 120 тыс. польскіх студэнтаў узялі ў ёй удзел. Асноўныя краіны, у якія едуць на навучанне па гэтай праграме – гэта Нямеччына, Данія, Партугалія, Гішпанія, Францыя, Італія.




Таксама Польшча і Літва з'ўляюцца часткай Балонскага працэсу – сістэмы, якая мае на мэце стварэнне еўрапейскай зоны вышэйшай адукацыі праз гарманізацыю структураў і стандартаў акадэмічных ступеняў і ў сферы забеспячэння якасці. У дадзенай сістэме бяруць удзел не толькі краіны ЕС, але і амаль усе еўрапейскія краіны. Аднак, спробы нашай краіны ўступіць у дадзеную сістэму былі беспаспяховыя па прычыне праблемаў у сферы акадэмічнай свабоды.







| Рэйтынг / Універсітэт | Віленскі ўніверсітэт | Варшаўскі ўніверсітэт | Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт |
|---|---|---|---|
| Табліца рэйтынгаў (Ranking Web) універсітэтаў 2013 (месца ў спісе) | 673 | 271 | 790 |
| Сусветны рэйтынг (QS) універсітэтаў 2013 (месца ў спісе) | 601-650 | 338 | 551-600 |



WWW.SP24BIELSKO.PL

У Польшчы і Літве паспяховая адукацыя ёсць не толькі ва ўніверсітэтах, але і ў школах. Паводле міжнароданага рэйтынгу PISA (Programme for International Student Assessment) Польшча і Літва займаюць даволі высокія паказчыкі паспяховасці выканання школьнікамі міжнароднага тэсту, які правярае матэматыку, чытанне і навукі. Паводле дадзеных за 2012 г. сярод 65 краінаў, Польшча займае высокую 14-ю пазіцыю, з якой яна абыйшла большасць заходніх краінаў, напрыклад, Бельгію, Нямеччыну, Аўстрыю, Аўстралію, Ірландыю, Новую Зеландыю, Данію, Францыю, Вялікабрытанію, ЗША і інш. Літва заняла не такую высокую пазіцыю (37-ю), але абыйшла Швецыю, Вугоршчыну, Харватыю, Ізраіль і інш.

# Еўрапейскія сталіцы культуры

*У* 1985 годзе паўстала ініцыятыва надавання гарадам статусу еўрапейскай сталіцы культуры. Ад таго часу больш за 40 еўрапейскіх гарадоў змаглі “праявіць” сябе дзякуючы гэтаму прэстыжнаму праекту. Мэта ініцыятывы не толькі ў тым, каб прадэманстраваць багацце і разнастайнасць культуры ў еўрапейскіх гарадах. Праект паказвае тыя непарыўныя сувязі, якія існуюць паміж гарадамі ў розных рэгіёнах, ён збірае людзей з розных куткоў Еўропы разам і вядома ж дазваляе ім пачуць еднасць. Менавіта таму пасля так званага “вялікага пашырэння” 2004 году штогод абіраецца як правіла адна сталіца са “старой” Еўропы і адна з ”новай” (пасля 2011 году гэтае правіла стала афіцыйным).

*П*аводле спецыяльна праведзеных даследаванняў, таксама як і звычайных назіранняў, званне сталіцы культуры дапамагае гораду стаць больш значным і прывабным як у вачах гасцей, так і ўласных жыхароў. Ажывае, становіцца больш інтэнсіўным культурнае жыццё, паляпшаецца адпаведная інфраструктура, і, як вынік, горад гатовы прыняць больш гасцей, а госці з большай цікаўнасцю і ахвотай выбіраюць гэты горад як частку свайго турыстычнага маршруту.

*Н*атуральна, што стаць сталіцай культуры імкнуцца многія еўрапейскія гарады. Працэдура прысуджэння тытулу складаная. Спачатку Рада ЕС прызначае чарговасць краінаў, якія будуць прадстаўленыя на кожны год. Пасля на конкурснай аснове выбіраецца па адным горадзе з краіны. Працэс адбору завяршаецца за шэсць год да прысуджэння тытулу.

*Н*ашы суседкі, Літва і Польшча, ужо мелі досвед удзелу ў культурным свяце. **Вільня** з’яўлялася адной з еўрапейскіх сталіцаў культуры ў 2007 годзе. У 2000 годзе, яшчэ да далучэння Польшчы да ЕС, ганаровы тытул меў **Кракаў**. Варта зазначыць, што у 2000 годзе сталіцаў было ажно 9.

*У* 2016 годзе Усходнюю Еўропу будзе прадстаўляць польскі **Ўроцлаў,** які з’яўляецца пабрацімам беларускага Гродна. Цягам апошніх некалькіх год ўроцлаўскі Фонд “За Вашу і Нашу Свабоду” штогод праводзіць Фестываль незалежнай беларускай культуры.


Віленская Вострая Брама, якую шануюць і беларусы


Кракаў, дзе вучыўся вялікі Скарына


Пабрацім беларускай Гародні Уроцлаў

# Еўрапейскія клубы: што гэта такое?


**Актывісты Мінскага Еўраклубу раздаюць інфармацыйныя буклеты Еўразвязу**

*М*эта сеткі еўрапейскіх клубаў, створанай у 2011 годзе Рухам “За Свабоду” – набліжаць Беларусь да аб’яднанай Еўропы і спрыяць увядзенню еўрапейскіх стандартаў.




*Е*ўрапейскія клубы існуюць ва ўсіх абласных цэнтрах Беларусі. Еўраклубы – гэта асяродкі, дзе гуртуюцца цікавыя людзі, аказваюцца інфармацыйныя паслугі, фармуецца еўрапейскасць. Асноўны кірунак дзейнасці Еўраклубаў – распаўсюд інфармацыі пра Еўрасаюз, аказанне беларусам практычных паслугаў і карысных парадаў па пытаннях супрацоўніцтва з аб’яднанай Еўропай (удзел у еўрапейскіх адукацыйных праграмах, пошук бізнес-магчымасцяў, інфармацыя аб турыстычных маршрутах, кансультацыі па візавых пытаннях).

*Б*ольш пра дзейнасць Еўраклубаў: http://euroclub.pyx.by

# «Больш Еўропы ў Беларусь»




**А**б'яднанай Еўропе неабходны сур'ёзны аналіз ўсходняй палітыкі, так як тут назіраюцца негатыўныя паразніцкія тэндэнцыі. Павінна быць распрацаванай і рэалізаванай новая стратэгія для ўмацавання дэмакратыі і стабільнасці ў нашай частцы кантыненту.

**Г**еапалітычная сітуацыя змяняецца да горшага: ўмацоўваецца антыдэмакратычны і пост-імперскі рэваншызм. Еўрасаюзу неабходна грунтоўная стратэгія канкрэтных крокаў, а не рыторыкі. Патрэбныя сумесныя дзеянні. Прыходзіцца канстатаваць, што праграма «Усходняе партнёрства» не нашмат прасунулася ў сваёй рэалізацыі: Крэмль паспяхова нейтралізуе гэту ініцыятыву, не шкадуючы вялікіх рэсурсаў на ўцягванне ў сферу свайго ўплыву. Масква ажыццяўляе паўзучую контррэвалюцыю ў Грузіі і вядзе блакаду Малдовы і Украіны, спрабуе незваротна прывязаць да сябе Беларусь і Арменію. Расейскія грошы з поспехам пачынаюць прыватызаваць уладу на постсавецкай прасторы і нават уплываць на палітычныя працэсы ў новых краінах-сябрах Еўрасаюзу. Прычына паразаў усходняй палітыкі ЕС – у разнастайнасці і непаслядоўнасці стратэгіяў ЕС, тым часам як у Расіі маецца адна ясная стратэгія процідзеяння еўрапеізацыі і дэмакратызацыі былых савецкіх рэспублік.

**Г**алоўны элемент паслядоўнай стратэгіі ЕС ва ўсходнім кірунку – цярпенне. Змена постсавецкага менталітэту запатрабуе змены пакаленняў, цыклы еўрапрагрэсу і рэгрэсу могуць паўтарацца, але Еўрасаюз не павінен у складаныя перыяды краінаў «шосткі» УП сказаць: ня хочаце быць з намі – «да пабачэння»!



Аляксандр Мілінкевіч. Старшыня Руху "За Свабоду". Нарадзіўся ў 1947 годзе ў Гродне. Кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт. Намеснік старшыні Гродзенскага гарвыканкаму (1990-1996). Кандытат у прэзідэнты ад аб'яднаных дэмакратычных сілаў у 2006 годзе. Лаўрэат прэміі Еўрапейскага Парламенту імя Андрэя Сахарава "За свабоду думкі".

**Л**епшы спосаб дапамагчы Расеі пазбавіцца ад неа-імперскі амбіцыяў – гэта ўмацаванне незалежнасці былых савецкіх рэспублікаў. Пры гэтым без дыялогу з Крамлём не абысціся. Неабходна зблiжэнне ЕС і Масквы, але не любой цаной. Яно павінна будавацца на празрыстых прынцыпах прагматычных адносінаў і з захаваннем каштоўнасцяў аб'яднанай Еўропы.

**П**алітыка ЕС грунтуецца на дэмакратычных каштоўнасцях. Для нас такая пазіцыя прынцыпова важная. Але, акрамя маральнай пазіцыі, неабходныя і інструменты ўплыву на тых, хто ў Беларусі прымае рашэнні, у тым ліку па незалежнасці. Такіх рычагоў сёння практычна няма. Трэба шукаць шляхі вырашэння гэтай праблемы.

**У**сім зразумела, што ў Беларусі жорсткі аўтарытарны рэжым. Але гэта не значыць, што ЕС павінен сёння адмовіцца ад актыўнай палітыкі пашырэння эканамічнага і культурнага супрацоўніцтва, ад еўрапеізацыі Беларусі, ад развіцця кантактаў з яе ўладамі таму, што за Бугам няма дэмакратыі. Патрэбны шырокі дыялог ЕС з Беларуссю, перадумовай якога па-ранейшаму павінна быць вызваленне і грамадзянская рэабілітацыя палітвязняў.

**В**яртанне Беларусі ў Еўропу будзе магчымым, калі ў грамадстве і ва ўладзе будуць пераважаць праеўрапейскія настроі. Без дыялогу сёння гэта не будзе рэальна і заўтра. Якім ён павінен быць ? Абумоўленым і крытычным. Ён не можа мець на мэце зрабіць з Лукашэнкі дэмакрата. Не атрымаецца. Але дыялог дае інструменты ўплыву Еўрасаюзу, і, як паказвае досвед, прымушае ўладу памяншаць рэпрэсіі. Ён пашырае магчымасці ўплыву грамадзянскай супольнасці, зніжае страх у краіне. У нашай сучаснай гісторыі не санкцыі, а дыялог вызваляў палітвязняў. А галоўнае – дыялог павялічвае праеўрапейскія настроі і захоўвае для Беларусі еўрапейскую перспектыву.

**П**адзеі апошніх гадоў паказваюць – чым мы бліжэй да Еўропы, тым больш незалежнасці і правоў чалавека. Любы пазітыўны крок у бок Захаду лепш, чым крокі, якія вядуць да ўзмацнення залежнасці ад Расіі і страты суверэнітэту.

**Н**аш лозунг – «Больш Еўропы ў Беларусь!».

**Аляксандр Мілінкевіч**

# Еўра-цікавосткі

**Ц**яперашні прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ была першым літоўскім членам Еўрапейскай Камісіі. Цягам 5 год яна была адказная за ўвесь бюджэт ЕС, займаючы з 2004 па 2009 гг. пасаду Камісара па фінансавым праграмаванні і бюджэце. Бюджэт ЕС складае пракладна 140 млрд. еўра штогод. Нягледзячы на такую вялікую лічбу, гэта толькі каля 1% валавога нацыянальнага даходу ЕС. У 2005 г. цяперашні прэзідэнт Літвы Даля Грыбаўскайтэ была ўшанавана званнем "Камісар году" за "неаслабныя намаганні па перанакіраванні выдаткаў ЕС у сферы, якія павялічваюць канкурэнтаздольнасць, такія як навуковыя даследаванні і распрацоўкі."





**Б**ылы прэм'ер-міністр Польшчы Ежы Бузэк быў першым прадстаўніком Цэнтральнай і Усходняй Еўропы, які стаў старшынём інстытуцыі ЕС. Ён займаў пасаду Старшыні Еўрапейскага Парламенту з 2009 па 2012 г.

**П**ольшча была адзінай краінай ЕС якая падчас фінансавага крызісу канца 2000-х гг. пазбегла рэцэсіі. У 2009 г. Польшча мела найбольшы рост валавога ўнутранага прадукту.

**Н**а перыяд 2007-2013 гг. ЕС праз структурныя фонды і фонд лучнасці вылучыў 172.6 млрд еўра на падтрымку рэгіёна Цэнтральнай і Усходняй Еўропы. Зь іх большую частку атрымала Польшча - 65.3 млрд еўра. Літва атрымала 6.8 млрд еўра.

**З** 28 краінаў ЕС, разам з Літвой і Польшчай толькі 22 з'яўляюцца поўнымі членамі Шэнгенскай прасторы (не з'яўляюцца Баўгарыя, Вялікабрытанія, Ірландыя, Кіпр, Румынія і Харватыя). У дадатак да краінаў ЕС у Шэнгенскую зону ўваходзяць Ісландыя, Ліхтэнштэйн, Нарвегія, Швейцарыя.

**З** 2010 г. Беларусь знаходзіцца на першым месцы ў свеце па колькасці атрыманых шэнгенскіх віз на душу насельніцтва. Лідарамі па выдачы віз з'яўляюцца консульствы Польшчы і Літвы, якія выдалі больш за 291 тыс. і 193 тыс. у 2012 г. адпаведна.

**91**% літоўцаў і **77,5**% палякаў выступілі за далучэнне да ЕС на рафэрэндуме 2003 г.

**У** Польшчы з 2004 па 2012 гг праз еўрапейскі Фонд лучнасьці было прафінансавана **172 000** праектаў на суму 82,2 млрд. еўра.

# РУХ за свабоду

**І**дэя стварэння Руху "За Свабоду" ўзнікла падчас грамадскіх пратэстаў супраць фальсіфікацыі вынікаў прэзідэнцкіх выбараў 2006 году. З тых часоў Рух яднае прыхільнікаў нацыянальнага адраджэння, дэмакратычнага і еўрапейскага шляху развіцця. У снежні 2008 Рух "За Свабоду" з чацвёртай спробы атрымаў рэгістрацыю Міністэрства юстыцыі як праваабаронча-асветніцкае грамадскае аб'яднанне.

**С**тратэгічныя мэты Руху "За Свабоду"

- Дэмакратызацыя сацыяльнага і палітычнага жыцця ў Беларусі
- Умацаванне незалежнасці краіны
- Развіццё грамадзянскай супольнасці і абарона правоў чалавека
- Паступовая інтэграцыя Беларусі з Еўрапейскім Звязам

**Б**ольш падрабязна пра Рух "За Свабоду" і яго кампаніі можна даведацца па адрасе: http://рух.by.



Бюлетэнь выдаецца сеткай Еўрапейскіх клубаў Руху "За Свабоду". Наклад 299 ас. Адказны за выпуск Алесь Лагвінец.
Распаўсюджваецца на правах унутранай дакументацыі бясплатна. Падпісана ў друк 12.10.2013 г.
Кантакты Рэдакцыі: паштовая адрэса: а/с 148, 220005, г.Мінск; тэлефон: 8(017)2808863; е-пошта: info@рух.by